*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 203 (785)**
Серада, 3 лістапада 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Надвор'е**

3 і 4 лістапада — воблачнае з праясненнямі надвор'е. 3-га на большай частцы тэрыторыі, удзень на паўднёвым усходзе — дажджы. 4-га па поўначы невялікія дажджы, туман. Вецер паўднёва-заходні, заходні 5—10 м/с. 3-га парывы да 14. Тэмпература паветра ўначы 3-га 0...+5, 4-га — 2...+3; удзень +6...+11.



## О доступе оппозиции к государственным СМИ

### Сообщение для прессы

29 октября 1999 года группы экспертов по СМИ от правительства Беларуси и от Консультативного совета оппозиционных политических партий при посредничестве КНГ ОБСЕ продолжили в Международном образовательном центре в Минске консультации о доступе оппозиции к государственным СМИ.

Группу экспертов от правительственной стороны возглавлял Михаил Сазонов, группу экспертов от Консультативного совета оппозиционных политических партий — Михаил Пастухов. В качестве посредника выступал посол Ханс-Георг Вик, руководитель КНГ ОБСЕ в Беларуси.

Перед началом обсуждения вопросов, обозначенных в повестке встречи, группа экспертов от политической оппозиции выразила серьезную обеспокоенность в связи с фактами дальнейшего наступления на независимую прессу, в частности, появлением письма Госкомпечати Республики Беларусь о предоставлении до 10 ноября текущего года данных о согласовании размещения редакции с местными исполнительными и распорядительными органами власти.

По итогам консультаций стороны завершили обсуждение Протокола согласования условий доступа политической оппозиции к государственным СМИ на период подготовки переговоров между правительством и оппозиционными политическими партиями и приступили к подготовке приложения к указанному Протоколу, в котором будут определены конкретные технические условия доступа политической оппозиции к государственным СМИ.

Следующая встреча экспертов по СМИ запланирована на 3 ноября текущего года.

**Консультативно-наблюдательная группа ОБСЕ в Беларуси.**

## Згодна з папярэднімі звесткамі, у другі тур прэзідэнцкіх выбараў ва Украіне выйшлі Леанід Кучма і Пётр Сіманенка

Згодна з папярэднімі звесткамі ўкраінскага Цэнтрвыбаркама, у першым туры выбараў прэзідэнта краіны найбольшую колькасць галасоў набралі цяперашні кіраўнік дзяржавы Леанід Кучма — 36,5 працэнта і лідэр Камуністычнай партыі Украіны Пётр Сіманенка — 22,2 працэнта. Яны прайшлі ў другі тур, які адбудзецца 14 лістапада. Далей у спісе прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта размясціліся старшыня Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі Украіны Наталля Вітрэнка і лідэр Сацыялістычнай партыі Аляксандр Мароз — прыкладна па 11 працэнтаў галасоў. Усяго ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў узялі ўдзел 13 кандыдатаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Яшчэ на месяц працягнута ўтрыманне пад вартай экс-прэм'ера Беларусі Міхаіла Чыгіра

Яшчэ на месяц працягнута ўтрыманне пад вартай у следчым ізалятары ГУУС Мінгарвыканкама былога старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіла Чыгіра.

Ён быў арыштаваны 30 красавіка 1999 года падчас правядзення кампаніі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, абвешчаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання на 16 траўня 1999 года, у якіх ён браў удзел у якасці прэтэндэнта на пасаду кіраўніка дзяржавы. Перад арыштам Міхаіл Чыгір неаднаразова папярэджваўся аб магчымасці арышту як яго самога, так і ягоных блізкіх, аб магчымасці правакацыі, замаху на жыццё, аднак ён не пакінуў краіны, як настойліва раілі "добразычліўцы" з розных спецслужбаў і ўладных структур, і працягваў удзельнічаць у перадвыбарчай кампаніі.

Першапачаткова ў дачыненні да М.Чыгіра было вылучана абвінавачанне ў крадзяжах у асабліва буйных памерах — артыкул 91, частка 4. Аднак у далейшым яно не знайшло пацвярджэння. Напрыканцы верасня следства па справе Міхаіла Чыгіра было завершана. Яму прад'явілі абвінавачанне ў перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў (артыкул 167 Крымінальнага кодэкса РБ), злоўжыванне ўладай або службовым становішчам (арт.166), халатнасць (арт.168).

Цяпер Міхаіл Чыгір і ягоны абаронца, якім у адпаведнасці з Крымінальна-працэсуальным кодэксам РБ стала яго жонка — Юлія Чыгір, знаёмяцца з матэрыяламі крымінальнай справы. Паводле слоў Юліі Чыгір, яна перакананая, што дзеянні, у якіх абвінавачваецца яе муж, не з'яўляюцца злачыннымі і ажыццёўлены ў межах службовых паўнамоцтваў. Пры аб'ектыўным судовым разглядзе гэтыя абвінавачанні павінны рассыпацца як картачны домік, упэўнена жонка экс-прэм'ера.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Мінгарвыканкам забараніў прадстаўнікам беларускай асацыяцыі незалежных прафсаюзаў прамысловасці правесці пікетаванне будынку Міністэрства юстыцыі

Мінскі гарвыканкам адмовіў прадстаўнікам Беларускай незалежнай асацыяцыі прафсаюзаў прамысловасці (БНАПП) у праве правесці 5, 8 і 9 лістапада пікеты ля будынку Міністэрства юстыцыі ў знак пратэсту супраць адмаўлення Мінюста перарэгістраваць сваю арганізацыю.

Адносна гэтага прэс-цэнтр БНАПП распаўсюдзіў паведамленне, у якім гаворыцца: "Гэтыя задаволеныя сабою, жыццём і ўладай чыноўнікі дазволілі правесці пікет у парку Дружбы народаў, у раёне плошчы Бангалор. Яны дазволілі рабочым паставіць пікет там, дзе гараджане выгульваюць сабак, там, дзе няма нікога, апрача выпадковых прахожых... Мінгарвыканкам у асобе Віктара Чыкіна (намеснік старшыні гарвыканкама — БелаПАН.) дазволіў сабе прынізіць арганізацыю найбуйнейшых прафсаюзаў... Чыноўнікі не хочуць разумець прафсаюзных і рабочых праблем, улада адгароджваецца ад іх". Прадстаўнікі БНАПП заяўляюць: "У прафсаюзаў хопіць сіл і цярпення дамагацца ўзнаўлення справядлівасці".

Як раней паведамляў БелаПАН, кіраўніцтва асацыяцыі, сябрамі якой з'яўляюцца больш за 340 тысяч чалавек, звярнуліся з іскам у Вярхоўны суд Беларусі адносна адмаўлення Мінюста перарэгістраваць аб'яднанне. Як заявіў на нядаўняй прэс-канферэнцыі сустаршыня БНАПП Аляксандр Бухвостаў, нягледзячы на тое, якім будзе рашэнне Вярхоўнага суда РБ, асацыяцыя мае намер працягваць сваю дзейнасць.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## Пад падпіску аб нявыездзе вызвалены лідэр БСДП (НГ) Мікалай Статкевіч

Каля дзесяці гадзін вечара 31 кастрычніка пад падпіску аб нявыездзе са следчага ізалятара ГУУС Мінгарвыканкама вызвалены старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі Мікалай Статкевіч.

У СІЗА ён знаходзіўся з вечара 17 кастрычніка і да моманту вызвалення праводзіў галадоўку. М.Статкевічу было прад'яўлена абвінавачанне па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь: 186-3 — "Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якімі быў парушаны грамадскі парадак" і 196-1 — "Парушэнне парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання".

**Алег САКАЛОЎ, Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## М.Статкевіч лічыць, што ён быў вызвалены з-пад варты дзякуючы ў першую чаргу міжнароднаму ціску на беларускія ўлады

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч лічыць, што ён быў вызвалены з-пад варты ў першую чаргу дзякуючы міжнароднаму ціску на беларускія ўлады. Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю БелаПАН раніцай 1 лістапада.

М.Статкевіч выказаў здагадку, што праводзімая ім на працягу двух тыдняў галадоўка наўрад ці паўплывала на рашэнне ўлад. "Каб паставіць уладу перад выбарам, я павінен быў знаходзіцца паміж жыццём і смерцю, — адзначыў ён. — Але гэтая галадоўка паслужыла пэўным каталізатарам для маіх таварышаў на Захадзе — сацыял-дэмакраты вельмі дружныя — і для міжнародных арганізацый. Я думаю, што асноўнай прычынай майго вызвалення быў міжнародны ціск. Ва ўлады няма альтэрнатывы перамовам". У апазіцыі ж, на думку лідэра БСДП (НГ), альтэрнатыва маецца — супраціўленне 17 кастрычніка стала вельмі добрым урокам для ўлады, "яна панічна спалохалася гэтых падзей, зразумела, што ў грамадстве ўзрастае патэнцыял не тое што незадаволенасці, а супраціўлення". "Таму я думаю, што ўлады, па-сутнасці, абмянялі мяне на пачатак перамоў", — заявіў Мікалай Статкевіч. Ён таксама адзначыў, што важкім фактарам ягонага вызвалення была кампанія салідарнасці ў Беларусі.

Што тычыцца абставін свайго вызвалення, то, паводле сцвярджэння М.Статкевіча, ён да апошняй хвіліны не ведаў, што яго выпусцяць з СІЗА. "Наогул гэта беспрэцэдэнтны выпадак. Калі мяне выводзілі, чалавек, які сядзеў са мною, сказаў, што хутчэй за ўсё мяне перавядуць у бальнічны корпус, бо нават калі ўявіць, што цябе сёння вызваляюць, — звычайна ў нядзелю гэта не робяць. Яны выклікалі машыну "хуткай дапамогі" і на ёй мяне прывезлі дадому і перадалі сям'і. Яны вельмі стараліся, каб не было ніякай агалоскі", — сказаў лідэр БСДП (НГ).

Мікалай Статкевіч адзначыў, што стаўленне да яго з боку адміністрацыі было дастаткова карэктным. З ім гутарылі начальнік ізалятара, начальнік медчасці і спрабавалі паўплываць з мэтай спынення галадоўкі. Была, паводле ягоных слоў, і спроба арганізаваць ускосны ціск на яго праз сукамернікаў. Спачатку лідэра БСДП (НГ) утрымлівалі ў камеры, дзе на 10 месцаў было 15—16 чалавек. Паводле ягоных слоў, сукамернікі ставіліся да яго добра: "Там людзі спяць па чарзе, але мне адразу ж вызначылі спаць у "начную змену". А праз некалькі дзён галадоўкі, калі мае суседзі зразумелі, што гэта ўсур'ёз і надоўга, я наогул атрымаў ложак у індывідуальнае карыстанне, а гэта там лічыцца раскошай". Затым М.Статкевіча перавялі ў камеру на 2 чалавекі плошчай 6 м$^2$.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.**

## Спекхард обратился к Мясниковичу за разъяснениями

### Информация для прессы

28 октября в письме на имя Михаила Мясниковича посол США Дэниел Спекхард обратился за разъяснениями по поводу высказываний главы президентской Администрации 18 октября по Белорусскому телевидению, в которых Запад обвинялся в выделении средств на то, чтобы "ломать, крушить и поджигать", а "не на лекарства". Посчитав такие заявления оскорбительными для США и не отвечающими действительности, посол США привел сведения о том, что только за последний год Соединенные Штаты предоставили Беларуси гуманитарную помощь на сумму в 15 миллионов долларов, из которых 5,8 миллиона долларов поступили в виде медицинского оборудования и лекарств. Только в сентябре этого года в больницы Беларуси были доставлены лекарства на сумму 1,7 миллиона долларов. Тысячи детей из зараженных районов ежегодно проходят оздоровление в странах Запада за счет принимающей стороны.

В своем письме посол отметил, что вместо обвинений в адрес Запада властям страны следует обратить внимание на собственную политику подавления и репрессий как источник социальной нестабильности и противостояния в Беларуси.

Посол высказал белорусским властям просьбу довести до общественности истинное положение дел в сфере предоставления США гуманитарной помощи Беларуси и прекратить обвинения в адрес Запада в связи с событиями 17 октября с.г.

**Посольство Соединенных Штатов Америки в Беларуси.**

## Амерыканская кампанія выбрала брэстаўчан

Брэсцкае аддзяленне беларускай чыгункі выйграла конкурс на перавозку ў Расію гуманітарных грузаў амерыканскай кампаніі "Сіленд".

Першы цягнік з 24-ма кантэйнерамі-рэфрыжэратарамі, якія адпраўленыя з галандскага порту Ротэрдам, ужо прыбыў у Брэст. Тут у перагрузачным тэрмінале рэфрыжэратары з мясам будуць перастаўленыя на шырокакалейныя платформы і накіруюцца ў Санкт-Пецярбург.

Як лічыць намеснік начальніка службы грузавых работ і знешнеэканамічнай дзейнасці начальнік аператыўна-размеркавальнага аддзела Беларускай чыгункі Вячаслаў Міхайлоўскі, перамога ў тэндэры стала магчымай таму, што Брэсцкі чыгуначны тэрмінал мае добрае тэхнічнае аснашчэнне, да таго ж перавозка грузу па беларускай чыгунцы абыдзецца адпраўшчыкам значна танней, чым дастаўка яго па моры.

На працягу гэтага года брэстчанам трэба будзе перавезці 650 падобных рэфрыжэратараў у Санкт-Пецярбург і 300 — у іншыя рэгіёны Расіі. Паводле афіцыйнай інфармацыі, Брэсцкае аддзяленне Беларускай чыгункі сёння "жыве" і пакрывае страты прыгарадных пасажырскіх перавозак за кошт перавозкі грузаў для Расіі — 90 працэнтаў грузаперавозак ажыццяўляецца для расійскіх адправіцеляў або атрымальнікаў. Толькі сёлета Брэсцкае аддзяленне зарабіла дзякуючы гэтаму каля 2 трыльёнаў рублёў.

Брэсцкія чыгуначнікі таксама разлічваюць на тое, што з цягам часу змогуць перавозіць па чыгунцы і вялікагрузныя аўтамабілі, якія ідуць з Еўропы ў Расію. Першы такі эшалон нядаўна быў сфарміраваны на беларуска-польскай мяжы і паспяхова даставіў груз атрымальніку.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**Памяць**

## Няўжо?

*Апамятайся, мой народ!*
*Адкуль узяўся гэты зброд,*
*Што так руйнуе Курапаты?*
*Няўжо затоеныя каты,*
*Што залілі зямлю крывёю,*
*Дасюль не ведаюць спакою?*
*Няўжо і ў новым пакаленні*
*Ужо забылі пра сумленне?*
*Яго, магчыма, не было*
*У здатных множыць зло на зло.*
*Калі ты толькі ча-ла-век,*
*У Новы год і ў Новы век*
*Не руш калматаю рукою*
*Пакутнікаў адвечнага спакою.*
*На гэтым жудасным пагосце*
*Ўсіх моляць праведныя косці,*
*Каб іх пакут і страшнай долі*
*На свеце не было ніколі.*

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**
**31 кастрычніка 1999 г.**

## Рэквіем пад соснамі

...Цяжка абапіраючыся на мыліцы, чалавек паволі падымаўся па сцяжыне ад Вялікага крыжа да каменя на курапацкім пагорку. Металічная шыльда дзесяцігадовай даўнасці на тым камені абвяшчала, што тут будзе ўзведзены помнік ахвярам масавых рэпрэсій 1937—1941 гг. Помніка няма дагэтуль, і сэрца старога сціскала несціханая пакута...

Для яго, інваліда Вялікай Айчыннай Баляслава Нарцызавіча Малевіча, які сустрэў вайну чырвонаармейцам на заходняй мяжы СССР а чацвёртай гадзіне 22 чэрвеня 1941 года, а Перамогу — на шпітальным ложку пад Кенігсбергам, які прайшоў вогненнымі вёрстамі шмат пакручастых пуцявін, ваяваў пад Масквой і на Курскай дузе, быў мноства разоў паранены і кантужаны, усё ж няма цяжэйшага шляху, чым гэтая сцяжына ў Курапатах. І не таму, што пражытыя гады і незагойныя раны забралі здароўе некалі дужага, спрытнага, па-спартыўнаму загартаванага дзецюка. А таму, што няма больш невыноснага цяжару, чым той, што на сэрцы. І тым не менш...

— Як ні цяжка, а кожны раз дабіраюся сюды — пакланіцца памяці без віны палеглых у гэтыя магілы, памаліцца за сваіх бацьку і дзядзьку, што былі закатаваны ў ГУЛАГУ, — спавядаецца ветэран з бел-чырвона-белым сцягам у руцэ. — За што іх, скажыце, схапілі, замучылі? За што раскідалі па ссылках сясцёр і маці, знішчылі нашу вялікую, працавітую сям'ю? За тое, што, не шкадуючы рук сваіх, з розумам і любоўю шчыравалі на зямлі, а ў пару калектывізацыі былі залічаны ў "кулакі"?

Стары салдат відавочна хвалюецца, згадваючы далёкія гады:

— Мне ўсяго восем стукнула, калі нас прыйшлі выкідваць з хаты. Мароз стаяў, а з маіх плеч чужыя рукі сарвалі кажушок — надта ён чамусьці спатрэбіўся савецкай уладзе. Каб не добрая цётка-суседка — яна ўратавала мяне, малога, схаваўшы пад сваёй шырокай спадніцай — згінуў бы і я. Потым выхоўваўся ў дзетдоме, тоячы надзею, што "памылка" высветліцца і я ўбачу дарагіх бацькоў і сваякоў... Пра іх лёс, як і пра тое, што ж на самай справе адбывалася ў часы сталіншчыны, я даведаўся ад свайго другога дзядзькі, які пасля семнаццаці гадоў за калючым дротам цудам ацалеў і, рэабілітаваны, вярнуўся на родную Асіповіччыну.

Баляслава Малевіча, як і сотні іншых людзей, прывялі ў Курапаты ў мінулую нядзелю, напярэдадні свята памінання продкаў "Дзяды" глыбокае асабістае пачуццё і грамадзянскае сумленне. Паломнікі запальвалі свечкі і ўскладалі кветкі ля крыжоў і магіл, над якімі ў пошуме сосен чуюцца стогны і енкі гінучых ад рук бязлітасных катаў. Людзі кляняліся гэтай свяшчэннай зямлі, набрынялай крывёю тысяч і тысяч ахвяр, разам з якімі былі расстраляны іх няспраўджаныя мары і надзеі, іх нязбытныя таленты і здзяйсненні, іх ненароджаныя дзеці. Удзельнікі каротКага мітынгу-рэквіема ў Курапатах, аддаючы даніну памяці бязвінна памерлым, выказвалі трывогу і пратэст супраць палітыкі сучасных улад, якія намагаюцца сцерці злавесныя сляды злачынстваў таталітарызму, пагарджаюць урокамі мінулага.

— Тут забівалі, разам з простымі людзьмі, беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, вучоных, — гаварыў у сваім выступе старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны Алег Трусаў. Тут закопвалі, хавалі нашу мову, гісторыю, нашу памяць. Але тут будзе мемарыял пакутнікам Беларусі! Мы зробім усё, каб крывавае кола генацыду больш ніколі не кацілася па нашай зямлі!

Сакратар управы Беларускага народнага фронту Алесь Чахольскі распавёў аб сістэматычных жудасных фактах вандалізму ў Курапатах, апаганьванні святой мясціны, кашчунным здзеку над прахам забітых, якім і цяпер няма спакою: рабаўнікі-марадзёры, пры бяздзеянні ўлад, выкопваюць косці з ямін, раскідваюць па лесе...

Быў зачытаны ліст старшыні партыі БНФ Зянона Пазьняка, першаадкрывальніка Курапатаў. Ён звярнуўся да суайчыннікаў, усіх сумленных грамадзян з просьбай самім перад сабой прысягнуць на адданасць маці-Беларусі, набліжаць яе светлы дзень.

Святары розных канфесій правялі імшу па закатаваных, маліліся за заспакаенне іх душ, і словы іх малітваў адгукаліся ў сэрцах прысутных.

— Мне здаецца — яны, загінуўшыя тут, глядзяць аднекуль з нябёсаў на свае раскіданыя магілы, бачаць нас і пытаюцца: ці здолеем мы не забыць, не дапусціць больш такое? — са слязьмі на вачах гаварыла маладая жанчына Ірына Сініцына, якая прыйшла ў Курапаты з маці Аленай і цёткай Надзеяй Дземідовіч — шматгадовай пакутніцай ГУЛАГу.

Але ні слёз, ні простага спачування, нават разумення таго, што тут адбываецца, дзеля чаго тут сабраліся людзі, не было ў шматлікіх пешых і матарызаваных "ахоўнікаў" у плямістай форме, у атачэнні якіх праходзіў мірны мітынг-рэквіем. Непрыязна пазіралі яны на сваіх "падапечных", нервова круцілі дубінкамі — па ўсім відаць, не цярпелася пусціць іх у ход. Прычапіцца, здавалася, абсалютна не было да чаго, усё было ціха, спакойна. Але як жа здаць змену без "улову"? І калі мы невялікай купкай ужо ішлі ў бок тралейбуснага прыпынку, дарогу заступілі двое здаравенных міліцыянтаў, паспрабавалі выхапіць з гурту мужчыну ў акулярах. Але на той момант у "лаўцоў" нічога не атрымалася.

І ўсё ж некалькі чалавек пасля мітынгу былі ўзяты ў палон нашымі слаўнымі "праваахоўнікамі" (з такім бы імпэтам марадзёраў лавілі!). Гісторыя паўтараецца? Як не зразумець трывогу паважанага ветэрана, які ва ўзросце гэтых плямістых "герояў" змагаўся з фашызмам, а не з бяззбройнымі суайчыннікамі, і цяпер усёй істотай пратэстуе супраць атрутных парасткаў на роднай зямлі.

Попел пакутнікаў стукае ў сэрцы жывых, каб не скарыліся навале.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

**Эхо "Марша Свободы"**

*Александр ОЛЬХОВОЙ*

## И ярость благородная вскипала, как волна!..

18 октября с.г. по БелТВ был показан "документальный телефильм" "Как это было" — о событиях прошедшего днем раньше в Минске "Марша Свободы". Цель и основной замысел этой телеподделки стары, как мир: в очередной раз черное назвать белым (и наоборот), свалить все с больной головы на здоровую, оболгать оппозицию и — в качестве сверхзадачи — обелить Власть. Ни увещевательный голос Ермошина, на все лады расхваливавшего площадь Бангалор как "идеальнейшее место для проведения акций протеста"; ни отстраненный тон прокурора Кондратьева, который, потрясая перед телекамерой текстом Конституции Республики Беларусь, тщился доказать, что оппозиция специально спровоцировала кровавое побоище в столице и что для него-де, прокурора, главное — не политика, а святое соблюдение законности; ни трагически "поставленный" голос комментатора за кадром не смогли придать этой наспех сварганенной телестряпне хоть какую-то долю убедительности и объективности. Утверждаю это как непосредственный очевидец событий "кровавого воскресенья".

Самое печальное во всей это ситуации то, что мы в который уже раз убедились: вся административно-пропагандистская и силовая рать не способны учиться на собственных ошибках, извлекать "горькие, но необходимые" уроки из прошлого опыта, **трезво и объективно** оценивать обстановку. Режим и в этот раз пошел по чисто советскому пути: во всем обвинил "жирный Запад, проплативший мероприятие оппозиции", и "определенные круги в России, играющие на руку врагам интеграции в Беларуси". Вместо конкретных аргументов, доказательств (к примеру, того, что оппозиция накануне "марша" в качестве аванса получила от всевозможных доброхотов "около трехсот тысяч долларов"), пропрезидентские пропагандисты то и дело употребляли ничего не значащие "я убежден", "нет сомнения", "по всему видно" и т.д.

Более того, в спешке и суете, в натужном стремлении все поставить с ног на голову (то бишь выполнить определенный политзаказ) авторы этой чисто пропагандистской "страшилки" допустили множество явных ляпов, логических и смысловых нестыковок. Не без злорадства утверждалось, что организаторам акции так и не удалось собрать обещанные сто тысяч... Что было каких-то жалких тысяч пять, не более... Да, могу подтвердить: ста тысяч действительно не было, но тысяч двадцать-двадцать пять присутствовало наверняка. Но.. еще не вечер! Цыплят по осени считают. Благодарите Бога, спадар Мясникович, что "несмотря на хорошую "раскрутку", заявленные 100 тысяч человек на улицу не вышли"...

Голос за кадром то и дело утверждает, что на "Марше Свободы" была "толпа", "кучка", "группа", "сборище зевак", "праздно шатающихся, злобствующих, хулиганствующих элементов", намеривавшихся превратить нашу благополучную страну СНГ во вторую Чечню или второе Косово". Прямо-таки списано у горбачевских щелкоперов, брехавших в свое время о событиях в Фергане, Тбилиси, Сумгаите, Вильнюсе. Не случайно заказные "телехроникеры", упершись глазом в первый ряд идущих в колонне молодых людей с повязками на лицах (официальная охрана марша) и в "батальные сцены", боялись поднять телеобъектив над колонной и хотя бы один раз дать ПАНОРАМУ, ПЕРСПЕКТИВУ "Марша Свободы". Потому что это было поистине великолепное, потрясающее и духоподъемное зрелище, вселяющее надежду в то, что Беларусь просыпается, встает с колен. От головы колонны просто не было видно ее конца... Какая же это, елки-палки, "кучка", "толпа", "группа"?!

Голос за кадром: "ответственные за проведение несанкционированного мероприятия Щукин, Грязнова и другие несут ответственность..." Но вот явно просмотренный, пропущенный редактором "в свет" телекадр: над упавшим сержантом милиции нагнулся и распростер руки, словно птица, защищающая детенышей, остужает самые горячие головы легендарный журналист-правозащитник Валерий Щукин...

Голос за кадром: "сбитая с толку молодежь", "вовлекли в эту позорную акцию детей"... Да, молодых людей, юношей и девушек среди участников "Марша Свободы" действительно было немало. Но это ведь не слабость, а СИЛА оппозиции! И пришли они сюда не из-под палки, не по приказу начальства, не завлекаемые халявным пивом, концертом или киносеансом, а добровольно, по зову самого духа Свободы. Пусть попробует Лукашенко без соответствующих директив, грозных предупреждений, указаний и распоряжений, инструкций, наставлений, подачек, совещаний и семинаров с теми же активистами БПСМ вывести на улицы и площади столько демократически настроенной молодежи!

Да, некоторые парни и девчата бросали в милиционеров и спецназовцев камни, палки и другие "подручные средства" или, как еще не раз скажет сп.Дмитриев в своих "Политических диалогах", — использовали "оружие пролетариата". Да, лучше было бы этого избежать, но молодые силы порой не знают удержу, рвутся наружу. Потому что нынешний режим их и их родителей "достал". Довел до "точки кипения". Бестолковой, бездарной внешней и внутренней политикой, постоянными необоснованными запретами, противозаконными акциями, ограничениями и т.д. В передаче "нечаянно" промелькнул многозначительный кадр: пожилая женщина подает "воюющим" юношам и девушкам обломки асфальта... А ее разве власти не довели до этого отчаянного шага? Или ее тоже "купили" "определенные круги", "жирный Запад"?

*(Окончание на 2-й стр.)*

Пр. Зоціка, Іларыёна, Феафіла, Якава.
К. Сільвіі, Губерта, Марціна.

85 гадоў з дня нараджэння П. А. Левановіча (1914—1943), беларускага пісьменніка.

**3**

'99 СЕРАДА

Усход 7.14
Захад 16.32
Даўж. дня 9.18

Апошн. квадра 31 кастрычніка
Усход 2.31
Захад 16.18

